# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1687) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 11 ВЕРАСНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.


## ЗНАЁМСТВА З БЕЛАРУССЮ

### НА РАДЗІМЕ ЯКУБА КОЛАСА

Трэба прызнацца, што ўсё пярэдадне назначанай паездкі на радзіму Якуба Коласа я хадзіў неяк дзіўна ўсхваляваны. Сама думка, што змагу ступаць па зямлі, па якой ступаў паэт, глядзець на тое наваколле, да якога дакранаўся яго позірк, гаварыць з людзьмі, з якімі гутарыў ён, не давала мне спакою і быццам наркотык, прыемна казычучы па сэрцы, авалодвала маёй душою і думкамі. Узбуджалася ўяўленне, а ноччу прыходзілі ў сон коласаўскія героі, снілася „Новая зямля". Як прыемна ўяўляць мясціны, якіх ніколі не бачыў, а дзе да болі хацелася б пабыць.

На радзіму Коласа едзем у павялічаным складзе. Спадарожнічаюць нам Валерый Скварцоў — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, малады таленавіты паэт Алесь Емяльянаў і прыгожая Тоня — супрацоўнік Беларускага аддзялення Фонду культуры. Са Скварцовым і Емяльянавым я ўжо знаёмы. З Тоняй знаёміць Валерый. Па дарозе, на ўскраіне Мінска, бярэм Зінаіду Мікалаеўну Камароўскую — дырэктара Літаратурнага музея Якуба Коласа.

Едзем у Стаўбцоўскі раён. Нашае падарожжа па коласаўскіх мясцінах пачынаецца са Стаўбцоў. Ляжаць яны ў васьмідзесяці кіламетрах ад Мінска на высокім правым беразе Нёмана. На поўнач ад горада цягнецца малады сасняк, на поўдзень, за Нёманам, разляглісся заліўныя лугі. Дакладная дата заснавання горада дагэтуль не ўстаноўлена. Вядома толькі, што першы запіс паходзіць з 1500 года. Магчыма, што сваю назву Стаўбцы ўзялі ад тых стаўбоў, да якіх жыхары прывязвалі лодкі на Нёмане.

Стаўбцоўшчына... Прынёманскі край, край лясоў і вады, край блакітнага неба і шчырай беларускай гасціннасці, родны кут Якуба Коласа, натхненне для яго творчасці, рэчаіснасць, перанесеная ў мастацтва.

Наведваем на самы пачатак новаадкрыты музейны куточак. З намі сакратар райкома. Вялікі драўляны пакой пахне вясковаю хатаю і напамінае дзяцінства. На сценах вісяць палотны з пейзажамі мясцовых мастакоў і эпізоды з „Новай зямлі". А на лавах караваі — выраб мастацкіх рук Валянціны Уласік. Стаяць яны прыгожыя, каляровыя, з матывамі народных свят і сямейных абрадаў, эпізодамі з

(Працяг на стар. 3)



*Помнік Якубу Коласу ў Мінску.*

(Пачатак у папярэднім нумары)

## ВЫРАШЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАННЯ Ў БЕЛАРУСІ: РЭВАЛЮЦЫЯ І КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ

**В. КРУТАЛЕВІЧ, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР, доктар юрыдычных навук, прафесар.** Што такое нацыянальны рух і яго формы? Што такое нацыяналізм і яго праяўленні? Гісторыкам, якія вывучаюць канкрэтныя праблемы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, прыходзіцца пастаянна сутыкацца з гэтымі пытаннямі. Кастрычніцкая рэвалюцыя абвясціла роўнасць усіх нацый Расіі, іх суверэннасць, стварыла ўмовы для свабоднага развіцця. Але, як мне здаецца, усё гэта не выключала грамадскіх рухаў за вырашэнне той ці іншай праблемы нацыянальных адносін. Рух за стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі ў 1917—1919 г.г. — гэта нацыянальны рух на сацыялістычнай глебе. У той жа час праціўнікі савецкага ладу прыкладалі намаганні, каб працэс нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння Беларусі скіраваць у іншае рэчышча.

Мікалай Сцяпанавіч Сташкевіч гаварыў пра БНР: Беларуская Народная Рэспубліка — гэта „не дзяржава", хоць арганізацыі і партыі, якія „абвяшчалі" яе, стварылі ўрад.

Нават марыянетачная дзяржава мае нейкую, хоць уяўную ўладу. Але і нямецкія акупацыйныя ўлады афіцыяльна не прызнавалі БНР і, нягледзячы на яе просьбы, не „даравалі" ёй ніякіх уладных паўнамоцтваў. Рада і „ўрад" БНР ажыццяўлялі функцыі арганізацыйнага цэнтра палітычных сіл, якія імкнуліся стварыць беларускую буржуазную рэспубліку.

Шляхі нацыянальна-дзяржаўнага развіцця Беларусі асабліва хвалявалі інтэлігенцыю. Адна яе частка стала пад еўягі Савецкай улады, другая — вагалася, трэцяя, апантаная ідэяй „незалежнай" Беларусі, удзельнічала ў радах.

Складаным быў шлях палітычнай эвалюцыі ў Я. Купалы. Пра гэта раней стараліся не гаварыць. Думаецца, што аўтарытэт вялікага паэта не будзе прыніжаны, калі сказаць пра гэта праўдзіва, з улікам складанасцей гістарычнай абстаноўкі.

Над намі і праз паўстагоддзе працягвае вісець грозны дух выкрывальніцкіх публікацый 30-х гадоў аб так званых нацдэмах. Гэтыя публікацыі нагняталі істэрыю і шпіёнаманію. Слова „нацдэм" было тады сінонімам шпіёна, дыверсанта, нацыяналіста, контррэвалюцыянера. Нацыянал-дэмакратызм прайшоў пэўныя этапы свайго развіцця. Ва ўмовах царызму і керанщчыны адстойванне нацыянал-дэмакратам права нацыі на самавызначэнне, на нацыянальнае раўнапраўе, на свабоднае развіццё нацыянальнай культуры, мовы было справай прагрэсіўнай. Ва ўмовах жа сацыялістычнай рэвалюцыі нацыянальнаму дэмакрату трэба было вырашаць, з кім ён пойдзе: з Савецкай уладай, супраць яе ці зойме пазіцыю чакальніка. Усё гэта патрабуе уважлівага вывучэння.

XIX партканферэнцыя прыняла спецыяльную рэзалюцыю пра міжнацыянальныя адносіны. У ёй гаворыцца аб задачах грамадазнаўцаў у распрацоўцы нацыянальных праблем. Вырашаючы іх, было б карысна агульнымі намаганнямі напісаць кнігу пра асаблівасці фарміравання і развіцця беларускай нацыі. Гэта дапамагала б вырашэнню сучасных праблем, у прыватнасці, двухмоўя, заканамернасцей развіцця нацыянальнай культуры.

**М. СТАШКЕВІЧ.** Вадзім Андрэевіч (Круталевіч — рэд.) гаварыў пра Янку Купалу. Я хацеў бы растлумачыць адзін момант. Янка Купала ніколі не належаў ні да якой палітычнай партыі. Ён, як прадстаўнік беларускага народа, прадстаўнік найбольш эксплуатуемага сялянства, заўсёды адстойваў яго рэвалюцыйна-дэмакратычныя памкненні. Праўда, на нейкім этапе, калі эсэры схіліліся да барацьбы супраць польскіх інтэрвентаў, ён выказваў іх ідэі. Купала сацыяльна складана разумеў Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю.

Якуб Колас таксама ніколі не належаў ні да якой палітычнай партыі. Калі ў чэрвені 1917 года на канферэнцыі БСГ, Якуб Колас быў выбраны ў састаў ЦК, ён пратэставаў супраць гэтага

(Працяг на стар. 6)

# Знаёмства з Беларуссю

(Працяг са стар. 1)

творчасці паэта. Прысутнасць Коласа адчуваецца тут ва ўсім. Нічога ў тым дзіўнага, побач жа Акінчыцы. Некалі засценак, сёння — частка горада. Прылучылі яго да Стаўбцоў у 1977 годзе рашэннем аблвыканкома.

Ля пастарэлай бярозы, па дарожцы, што вядзе ў сялібу колішняга лесніка Міхала Міцкевіча, вітаюць нас дзяўчаты, адзетыя ў народную беларускую вопратку. Вітаюць гасцінна, па-беларуску — боханам хлеба на ільняным ручніку, запрашаючы ў парогі хаты, дзе 3 лістапада 1882 года прыйшоў на свет Кастусь. Гасцінна адкрываюцца вароты, і вядзе нас у хату, якая складаецца з сеняў, каморы і аднаго пакоя, Юрась Міхайлавіч Міцкевіч — унук Якуба Коласа. Побач фотарэпарцёры з раённай газеты „Прамень". Пераступіўшы парог, чуем голас Юрася, які з вялікім перажываннем дэкламуе:

*Пры шляху шырокім,*
*Дзе стаіць камора,*
*Я на свет радзіўся*
*Пад глухі шум бору,*
*Познюю парою,*
*Восенню гнілою.*

Юрась Міцкевіч дасканала ведае творчасць Якуба Коласа. Пераканаемся ў гэтым падчас цэладзённай паездкі, калі да кожнай сітуацыі будзе чытаць яго творы.

Хаця Якуб Колас і нарадзіўся ў Акінчыцах, але сваёй радзімай лічыў ён Мікалаеўшчыну. Тут знаходзяцца ўсе яго родныя, тут пайшоў у Мікалаеўшчынскае народнае вучылішча, калі бацькі пераехалі ў Альбуць, адсюль паехаў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, тут, на Мікалаеўшчыне з'явіліся яго першыя спробы пяра. Юрась Міцкевіч падрабязна расказвае аб кожнай прыладзе, аб кожным элеменце, які знаходзіцца ў хаце, стадоле і свіронку. Гляджу на яго і здаецца, што гэты чалавек жыўцом прыйшоў з дзяцінства паэта, быццам бы ажыў дзядзька Антось.

З вялікай святасцю завіваем у ручнік прывітальны бохан хлеба, дбайна кладзем у машыну чырвоныя гваздзікі і едзем у Мікалаеўшчыну. Юрась — вялікі знаўца не толькі творчасці Якуба Коласа, але і гісторыі Стаўбцоўскай зямлі — расказвае з вялікім запалам і перажываннем.

Мікалаеўшчына — гэта сталіца беларускіх вёсак. Ёсць тут 600 дамоў і жыве каля 1000 жыхароў. Заснаваная ў 1500 годзе Мікалаем Радзівілам. Адгэтуль і назва. Праязджала і начавала ў Мікалаеўшчыне Марына Мнішак — жонка Ілжэдзмітрыя I, а потым — II. Быў тут таксама кароль Зыгмунт Аўгуст.

На высокім, з мармуровай пліты п'едэстала стаіць бюст Якуба Коласа. Стаіць і ўзіраецца на наваколле, на лес, які замыкае гарызонт быццам двума доўгімі вусамі і, здаецца, гаворыць:

*Малюнкі родныя і з'явы!*
*Як вы мне любы, як цікавы!*
*Як часта мілай чарадою*
*Вы ўстаяце перада мною!*

Да кветак, якія яшчэ не паспелі павянуць, дакладаем і нашыя чырвоныя гваздзікі.

Жыццё ганяла бацькоў Якуба Коласа з месца на месца. Яны „або пераязджалі, або думалі пераязджаць". Вось і пад'язджаем мы ў Смольню. Народ са святасцю шануе памяць песняра і дбайна ахоўвае мясціны і навакольную прыроду, якая разам з сялібамі ў Акінчыцах, Ластку, Смольні і Альбуці, куды мы яшчэ паедзем, мае музейнае значэнне.

У 1967 годзе пачаў працаваць у Смольні філіял музея Якуба Коласа. Літаратурная экспазіцыя размяшчаецца ў пабудаваным для гэтай мэты двухпавярховым будынку, а ў хаце, дзе жыла маці паэта, дзядзька Антось і яго брат Юзік, сярод рэчаў сям'і ёсць і тыя, якімі карыстаўся Якуб Колас. Сваёй пышнасцю цешаць вока пяць ліпаў, пасаджаных паэтам у памяць першага прыезду сюды Янкі Купалы ў 1912 годзе. Колас часта любіў сюды прыязджаць, будучы ўжо ў Мінску і працуючы віцэ-прэзідэнтам АН БССР. Калі быў тут апошні раз, незадоўга да смерці, сказаў свайму брату: „Я, Юзік, прыеду да цябе сюды паміраць".

Перад намі яшчэ Альбуць. Па дарозе затрымоўваемся на Нёмане, ва ўрочышчы „Дубы". Колас называў гэтае месца „Бярвянка". Задуменна і таямніча гоніць Нёман свае воды.

— Нёман адчувае сябе ўладаром гэтай зямлі, — гаворыць Юрась Міцкевіч. Сёння можа быць ён зусім плыценькі, заўтра на гэтым месцы паявіцца глыбіня.

Таямніча глядзяць падмытыя абрывістыя берагі, быццам бы баранілі дум і намераў ракі-ўладара. А на самым беразе старыя велізарныя дубы. Некаторыя пачынаюць ужо сохнуць. Юрась быццам бы здагадваецца, аб чым мы думаем, і кажа:

— Старасць старасцю, але ва многім пашкодзіла меліярацыя.

Вось пад гэтымі дубамі і адбываюцца фэсты і свята літаратуры. А наштодзень знаходзіцца тут турбаза.

У Альбуць дарога вядзе праз лес, прыгожы стары лес. Не раз хадзіў тут Якуб Колас, і дрэвы шапталі яму, адкрываючы свае тайны. Здаецца, і цяпер напяваюць яны радкі з яго творчасці. У Альбуці ствараецца мемарыяльная сяліба. Мы тут першыя афіцыяльныя госці. Для наведвальнікаў гэта яшчэ закрыта. Мыем рукі ў падсохшым ужо ручайку. Вада чыстая, чыстая. Проста можна піць.

— Гэты ручаёк замяняў Міцкевічам калодзеж, — гаворыць Мікалай Антонавіч Семяняка — загадчык філіяла музея ў Альбуці і вядзе нас у хату.

Пахне смалістым дрэвам. У пакоі вялізны стол, а вакол лавы.

— Гэта стол, за якім сядзеў Колас. Прывезены ён з Мінска, — гаворыць Юрась Міцкевіч і зараз дадае некалькі радкоў з творчасці паэта.

На стале паяўляецца верашчака з блінамі, вараная бульба і салоныя агуркі. Каму як каму, а мне гэта — маё дзяцінства. Праўда, не знаці мы верашчакі, але бліны былі ў нашай хаце часта. Сядзім, мачаем іх у верашчаку, размаўляем і, здаецца, ёсць тут з намі Колас. Сядзіць побач і, задумаўшыся, услухоўваецца ў нашу размову.

**Міхась Шаховіч**



*Альбуць. Хата, у якой у гадах 1891—1902 жыла сям'я Міцкевічаў.*

# Хто нас перахрышчвае?

Неяк увесну з'явілася выданне, якое дае салідную тэарэтычную падставу для нашых тут змаганняў супроць дэвастацыі беларускіх назваў мясцовасцей і іншых геаграфічных аб'ектаў Беластоцкага краю. Я маю на ўвазе кніжыцу Яраслава Яновіча „Zmiany białoruskich nazw miejscowych Białostocczyzny w dwudziestowiecznej polskiej konwencji ich zapisu", якую ён выдаў сваім коштам у Лодзі і спецыяльна на польскай мове, каб выклікаць шырэйшы грамадскі рэзананс у карысць справы. Першапачатковы варыянт ягоных даследаванняў, пра якія дакладваў ён на навуковых і папулярных канферэнцыях, апублікаваны ў дакументальным „Archiunym sszytku".

На багатым фактычным матэрыяле Яраслаў Яновіч даказвае, што ў адносінах адміністрацыі да беларускіх назваў у нас пераважаюць нелегальныя дзеянні. А па-праўдзе, несусветны балаган! Кожны гміннік піша так, як яму ў яго неасвечаную галаву прыдзе. Найчасцей заядла паланізуючы запіс, што даводзіць да перайначвання сэнсу данай назвы. Славуты ўжо прыклад з польскім напісаннем Юшкавага Груда, беларуская назва якога не мае сувязі з паняццем горада („груд" у нашай мове — гэта не тое самае, што ў польскай, і таму нельга пісаць яго ад літаркі „g", але ад „h"). Падобным парадкам проста аганьбавана назва мясцовасці Коматаўцы, якая ў даўнім польскім запісе Chomontowce чыталася як „Komontowce" — па лацінскай традыцыі напісання гуку „к". Разам са знікненнем папулярнасці латыні ў шляхецкай Польшчы не быў мадыфікаваны гэты афіцыйны запіс, а беларусы, прызвычаеныя маўчаць, маўчалі і па сёння маўчаць, нават у Коматаўцах! Адміністратар не абавязаны ведаць, што быў Комат — ятвяжскі князь і вой, але той жа адміністратар у сваёй запальчывасці ўсёведаючага змяняе ўсюды ў назвах беларускае „р" на польскае „рз", не кажучы ўжо пра „г", і Трасцянку, напрыклад, пераўтварае ў „Trześcianka", што аніяк не наводзіць на думку рачную расліннасць, але, выбачайце, трэскат або трасцу.

Такіх пярэхрыстаў у нашай старонцы без ліку! Трэба нешта рабіць, не паддавацца такому перахрышчванню. Тым болей, што гэтае перахрышчванне, як даказаў Яраслаў Яновіч, часта нелегальнае, а калі і легалізаванае, дык гэта толькі... легалізаваны балаган. Да вайны, у санацыю, калі душылі беларусаў, было нашмат больш захаваных беларускіх назваў. Гэта не парадокс, гэта сумнае сведчанне цямнотнасці нашых цяперашніх гмліннікаў.

**(СЯ)**




# ПАДЛЯШША

*Падляшша, роднае Падляшша,*
*Мая маленькая Айчына!*
*Гасцінная зямелька наша,*
*Прымі паклон ад свайго сына.*

*Палі, лугі і пералескі,*
*Ваш адчуваю свежы подых,*
*Святыня пушчы Белавежскай*
*Вабіць мяне к сабе заўсёды.*

*Гняце мяне бетонны горад*
*Сваім агромністым цяжарам,*
*Таму заўсёды вёска Мора*
*У маіх снах і ў маіх марах.*

*Таму я сэрцам і душою*
*Імкнуся да цябе няспынна*
*Маё Падляшша дарагое,*
*Мая маленькая Айчына.*

**Віктар Швед**

 

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Алена Мімрык
Дзіяна Энціна




**Працяг (8).**

На аўтобусны прыпынак сабралася чалавек дзесяць.

Аўтобуса чакалі доўга. Усе яны ішлі перапоўненыя пасажырамі і не спыняліся.

— Гэтак мы ніколі не выедзем. Трэба нешта рабіць.

У гэты момант Тамба-Тамба паказаў на дарогу:

— Глядзіце, вунь едзе мой знаёмы шафёр!

Дзеці пачалі крычаць і махаць рукамі.

Шафёр прытармазіў. Да яго падбег Тамба-Тамба і нешта хутка-хутка пачаў яму тлумачыць. Шафёр кіўнуў галавою і адчыніў перад дзецьмі дзверы.

Усе месцы ў аўтобусе былі занятыя і дзеці ўселіся ў праходзе, падкурчыўшы пад сябе ногі.

Ехаць было весела. Усе штурхаліся, спявалі песні, а на крутых паваротах пішчалі на розныя галасы.

Спыніліся ў стэпе. Па абодва бакі дарогі раскінуліся засеяныя арахісам палі. Дзеці выйшлі, падзякавалі шафёру за тое, што падвёз. Аўтобус узняў хмару пылу.

— Мы нічога зараз не ўбачым. Пачакаем трошкі, • няхай пыл асядзе. Але я ўпэўнены, гэта і ёсць поле, на якім працуе бабуля. Бачыце, я не памыліўся! Вунь відаць яе маленькі будан. Мы з татам зрабілі яго, каб можна было схавацца ад сонца, бо навокал няма ні куста, ні дрэўца, — сказаў Тамба-Тамба і пацягнуў усіх за сабою ў будан, зроблены з бамбуковых палак і накрыты саломаю.

Неўзабаве дзеці ўбачылі здалёк сагнутую постаць жанчыны ў доўгай спадніцы. Гэта была бабуля.

Калі Тамба наблізіўся да бабулі і расказаў, што ўсе яны — сябры з аднаго класа і хочуць дапамагчы ёй, яна заўсміхалася, падзякавала, аддала хлопчыку матыку, а сама пайшла ў будан напіцца вады.

Воля агледзелася і ўбачыла вялікую цыноўку, на якой сушыўся сабраны арахіс. Ёй вельмі падабаліся смажаныя арэшкі, якія яна купляла на рынку. Яна ведала, што з арахісу робяць алей. Але як расце арахіс, як яго збіраюць, сушаць, яна ніколі не бачыла, і яе ўсё цікавіла тут. На полі зямля была пульхнай, ногі правальваліся ў яе па самую шчыкалатку. Раслі малень-

(Працяг на стар. 10)

## З КОНКУРСУ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ



Маргарыта Юшчук і Эва Хвашчэўская з Беластока.



Удзельнікі цэнтральнага агляду у з Дубяжына.

Фота Я. Чэрнякевіч.

Ніл Гілевіч

### ВОСЕНЬ

Сонца палкасць траціла.
Блякла неба просінь.
Неўпрыкмет за працаю
Падступіла восень.

Свой прыход засведчыла
Школьнымі званкамі,
Пахам бульбы печанай,
Што прыплыў з дымкамі.

Раніцамі познімі
Каля ўсіх аселіц,
Над хмызэём і пожнямі
Туманы віселі.

Статкі там на выпасе
Скубалі дасыта.
Часта дожджык сыпаўся
Дробны, як праз сіта.

Пні цвілі апенькамі —
Сотні сот сямеек!
Зрэдку птушкі звенькалі —
Без імпэту неяк.

Спрытна шышкі лушчылі
Шустрыя вавёркі.
Вожыкі калючыя
Уцяплялі норкі.

Вербы задуменныя
Плакалі без сілы,
Пятакамі межнымі
Сыпалі асіны.

Жураўлі курлыкалі
Так трывожна ў высі,
Нібы іншых клікалі:
— Што ж вы засталіся?

Ды ў адказ на вокліч іх,
Роспачны і сумны,
Набівалі воллечкі
Вераб'і на гумнах.

Чырванелі гронкамі
Каля хат рабіны.
Нібы ў трубы громкія,
Дзесь ласі трубілі.

Выглядалі крушнямі
Гарбузы ў застрэшшы...
Зноў Сяргейка ўзрушаны
Быў увесь дарэшты:

— Хто хлусіў, што восенню
Толькі гразь ды хлюпа?
Наша восень — вось яна —
Мне бясконца люба!



Віктар Швед

### СНАПЫ, СНАПЫ

Снапы, снапы,
Іх дзве капы
На доўгім возе едзе.
На іх, дальбог,
Быццам на стог,
Ледзь узабраўся Федзя.
Стуль бачыць ён,
З усіх старон,
Што лета-прыгажун
Усе плады,
Як заўсягды,
Вязуць сяляне ў клуні.



 

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ЧАЧОТКА

*Борзда*

*Народ. зборн. А. Грыневіча*
*Гарм. К. Галкоўскага*

*Спарадзіла чачотачка семера дачок,*
*Спарадзіла невялічка семера малых:*

*Айгенню і Аксінню,*
*І Тацюху, і Насцюху,*
*І Макрыну, і Грыпіну,*
*Сёмую Хімку,*
*Сёмую Хімку.*

*Спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала,*
*Спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала:*

*Айгенню за Мірона,*
*А Аксінню за Сапрона,*
*А Тацюху за Дзяміда,*
*А Насцюху за Спірыда,*
*Радзівону — Макрыну,*
*Харытону — Грыпіну, —*
*Хімку за Кузьму.*

*Як пачала чачотачка пасаг выдаваць,*
*Як пачала невялічка ды ўсім надараць:*

*Айгенні — кажушок,*
*А Аксінні — хвартушок,*
*А Тацюсе — палёнкі,*
*А Насцюсе — суконкі,*
*А Макрыне дзве кошкі,*
*А Грыпіне панчошкі,*

*Хімцэ падвязкі,*
*Хімцэ падвязкі.*




## НІЎКА




Перабудова ў быце.

### МАЛА ЧАСУ

Эх, каб гэта было зранку,
Ды гарэліцы шклянку,
Табаку на люльку,
Красную дзяўчыну Ганульку.
Гарэліцу піў бы, люльку курыў бы,
А красную дзяўчыну Ганульку,
Да самага сэрца туліў бы.
Толькі бяда, што ўжо пасля поўдня
І адвячорак надыходзіць.

### РАЗУМНЫ

Матка кажа свайму малому сыну:
— Міхаська, занясі ты гэтую хустку і павесь на сонцы, хай прасохне.
Міхаська пайшоў і праз хвіліну вярнуўся.
— Ідзі ты сама вешай на сонцы, бо да яго не дастану.

### ПАМІЖ ДЗЕЦЬМІ

— Матулька, ці я магу з Юркам забаўляцца ў тату і маму?
— Добра, дзетачкі, толькі памятайце, не кідайце на сябе талеркамі.

*

Гні дрэва, пакуль гнецца, вучы дзіцятка, пакуль слухаецца.

*

Дзе ў сям'і лад і дзеці добра гадуюцца.

*

Калі не хочаш цягнуць, не лезь у хамут.



**Што ў дзяцінстве выхаваеш, на тое ў старасці абапрэшся.**

### КАБ НЕ ПРЫ ГАЛАВЕ

Пайшоў аднойчы селянін у лес. Ідучы з лесу спаткаў старэнькую і сухенькую бабульку. Нясла яна дровы ў плахце і многа ўсялякага зелля. Відаць змарылася, бо села на пяньку каля дарогі. Добрае сэрца меў селянін і кажа бабульцы:

— Сядай мне на плечы. Падвязу цябе.

Бабулька села на спіну, а селяніну і чуць цяжэй не стала, такая бабулька была лёгкая. Перад вёскай бабулька злезла і сказала:

— Дзякуй табе! Я Смерць і калі стану каля твае галавы, то ведай, што памрэш. Калі буду стаяць у нагах — выздаравееш. Ты мне памог і толькі табе я гэта сказала.

Смерць хуценька адышла ад селяніна, а ён прыйшоў дадому і ўсё думаў аб смерці. Праўда, доля то яго цяжкая, але паміраць ніяк не хочацца. Не еў, не піў, а ўсё думаў. Зрабіў ложак, які быў на восі і мог абкручвацца.

Прайшоў нейкі час, ажно селянін занямог і лёг у свой ложак. Раптам дзверы ціхенька скрыпнулі і дахаты ўсунулася Смерць. Ціхенька ішла проста да селянінавай галавы. Тады той адапхнуўся разам з ложкам і абярнуўся нагамі да Смерці. Смерць зноў кінулася да галавы. Селянін зноў абярнуўся да яе нагамі. Смерць як не злавала, як не скакала, ніяк не магла стаць пры селянінавай галаве. Яна так і пайшла з нічым.

А селянін хутка выздаравеў і доўга, доўга цешыўся добрым здароўем.





— Надзень акуляры, а то вочы папсуеш.

**А. Аляксейчык**

### ЗАВЫШАНЫЯ ПАТРАБАВАННІ

Нядаўна мая сяброўка выйшла замуж. Жаніх, трэба сказаць, нішто сабе — высокі, мужны. Але я, калі б мяне спыталі, узяла б лепш маленькага, несамавітага. Выбіраць жа з двух ліх меншае...

Яшчэ я хацела б, каб ён быў самы нязграбны. Каб дзе паставіла яго, там і ўзяла. А то звядуць! І правільна! Бяруць тое, што дрэнна ляжыць. А калі няўклюда — ніякіх турбот.

І зусім не абавязкова, каб быў надта разумны. Ну, скажыце, навошта ў хаце разумны муж? Каб гаварыў нешта разумнае, калі я мыю падлогу!

Кажуць, муж павінен кахаць сваю жонку. Па-мойму, зусім неабавязкова. Няхай калі-нікалі і пагуляе. Ён жа тады дома як шаўковы!

Мая знаёмая ганарыцца сваім мужам. Добра зарабляе, яго цэняць начальства. У мяне самой добры аклад. І мяне цэняць. Няхай лепш ён мною ганарыцца. Калі яго цэняць — значыць, ён на рабоце дзень і ноч. А хто ў такім выпадку палавікі будзе выграсаць? Гэты разумны, што многа зарабляе, гадзіннік з зязюляй аднойчы адрамантаваў. Цяпер зязюля па дванаццаць разоў выскоквае і пытае, якая гадзіна.

Гавораць: „Ах, які чалавек! Іграе на фартэпіяна, лёгка чытае па-англійску. Ах, як ёй пашанцавала!" Была я ў іх. Жонка прыбівае на сцяне кніжную паліцу, а ён іграе на фартэпіяна і па-англійску пытае, ці не вельмі гучна.

Як пагляджу на сваіх сяброваk — ва ўсіх мужы сімпатычныя, рослыя, разумныя, а такога, як мне патрэбен, немагчыма знайсці. Кажуць, патрабаванні ў мяне завышаныя. Можа, і сапраўды...

## ТЫ Ў МЯНЕ ВАРТЫ...

— Куме, пайшлі да мяне! — загадаў Пятрук Антону.

— А чаго да цябе?

— Пасядзім, пагаворым, як кум з кумам, ды чарку вып'ем.

— А што тэта сталася, што ты такім добрым сваяком робішся? Такога чагосьці з табою не бывала, — са здзіўленнем сказаў Антон.

— Не бывала, дык няхай будзе! Знаеш, час мяняецца і людзі мяняюцца. А ты ў мяне моцна варты, дальбог моцна варты. Ну, пайшлі! — настойваў Пятрук.

Ідучы Антон думаў і передумваў, і ніяк не мог здагадацца, за што кум яго частаваць будзе.

Пятрук хуценька паставіў бутэльку, закуску смачную падрыхтаваў, наліў чаркі і кажа: — Антон, за тваё здароўе! Ты ў мяне варты не аднаго паўлітра!

І так цілі, гаварылі аж высахла пляшка. Пятрук яшчэ стаў збірацца прынесці другую, але Антон яго перапыніў, што заўсёды лепш недапіць чымсьці перапіць.

— Але ўсё ж такі, Пятрук, скажы, чым я табе прыслужыўся? За што ты мне ставіш, за што я варты ў цябе? — пытаў Антон.

— Куме, калі ты ўжо такі ўпарты, дык скажу. Пры дарозе ў тваім лесе я зрэзаў тры сасны і папілаваў іх на дошкі, з якіх будзе падлога.

(мх)